**№161 (1974)**

Аўторак, 31 жніўня 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою…*
Якуб КОЛАС

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +23...+25, уначы — +14...+16, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +18...+20, без ападкаў, уначы — +12...+14, дождж; у Гродне ўдзень — +17...+19, уначы — +11...+13, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — +23...+25, без ападкаў, уначы — +16...+18, навальніцы; у Гомелі ўдзень — +27...+29, сонечна, уначы — +16...+18, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +25...+27, без ападкаў, уначы — +16...+18, навальніцы.

*www.meteo.by*



ВЫБАРЫ

## У рэжыме экстрыму

***Пазачарговы з'езд Аб'яднанай грамадзянскай партыі апынуўся пад пагрозай зрыву***

У нядзелю, 29 жніўня, прадстаўнікоў АГП і журналістаў каля дзвярэй гатэля "Мінск", дзе мусіў адбыцца з'езд партыі, сустракалі амапаўцы і асобы ў цывільным. Ахова гатэля, спаслаўшыся на адсутнасць загаду "зверху", дэлегатаў у канферэнц-залу не пусціла.

І гэта нягледзячы на тое, што АГП загадзя дамовілася з кіраўніцтвам гатэля аб правядзенні мерапрыемства і заплаціла за гэта грошы. Супрацоўнікі службы бяспекі "Мінска" на прад'яўленае плацёжнае даручэнне аб пералічэнні сродкаў рэагавалі млява. Палітыкам далі зразумець, што з дакументамі ў іх "не ўсё добра" і патрабавалі прад'явіць дамову, падпісаную кіраўніцтвам гатэля "Мінск". Апошні жэст супрацоўнікаў, які проста не вытрымлівае аніякай крытыкі, — раптоўнае "знікненне" ключоў ад канферэнц-залы...

*"Гэта натуральнае махлярства — атрыманне матэрыяльных сродкаў без выканання абавязацельстваў дамовы,* — пракаментаваў сітуацыю старшыня Мінскай гарадской арганізацыі АГП Яўген Лабановіч. — *Мы абавязкова накіруем адпаведную скаргу ў пракуратуру".*

На "месца баявых дзеянняў" тэрмінова прыехалі прадстаўнік Мінюста і супрацоўнікі міліцыі, якія на ўласныя вочы пераканаліся ў тым, што адбылося. Усе падзеі, дарэчы, фіксаваліся на відэакамеру асобамі ў цывільным... *"Мы як законапаслухмяныя грамадзяне звярнуліся ў шэраг арганізацый, якія б маглі прадаставіць нам памяшканне для правядзення з'езда,* — зазначыў старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька ў сваім звароце да дэлегатаў з'езда. — *Але пасля таго, як мы называлі мэту мерапрыемства, — з'езд АГП, на якім мы планавалі вылучаць патэнцыйных кандыдатаў на выбары, — усюды атрымлівалі адмову. І толькі ў гатэлі "Мінск", у адзіным месцы на ўвесь двухмільённы горад, мы пачулі, што адміністрацыю не хвалюе палітычны бок, для іх мае значэнне толькі пытанне фінансавага прыбытку",* — дадаў лідэр АГП.

Паводле слоў Лябедзькі, сваімі супрацьпраўнымі дзеяннямі ўлада ў чарговы раз прадэманстравала свой страх перад партыяй, якая вылучае ў Палату прадстаўнікоў сапраўдных прафесіяналаў.

З'езд усё ж адбыўся — у офісе выканкама АГП. Было вылучана 57 кандыдатаў у дэпутаты ад партыі - сярод якіх сем чалавек, што ўжо мелі вопыт парламенцкай працы: старшыня АГП Анатоль Лябедзька, яго намеснікі Аляксандр Дабравольскі і Людміла Гразнова, ганаровы старшыня АГП Станіслаў Багданкевіч, а таксама Юрый Варонежцаў, Марат Афанасьеў і Вячаслаў Герасіменка. Сярод кандыдатаў і 11 жанчын — Людміла Гразнова, Валянціна Палевікова, Святлана Каралёва (Мінск), Зінаіда Бандарэнка (Смаргонь), Марына Багдановіч (Ліда), Людміла Краснасельская (Калінкавічы), Святлана Панамарова (Нясвіж), Ніна Даўгучыц (Пружаны, Белавежская акруга), Валянціна Смольнікава (Буда-Кашалёва), Ірына Качан, Ганна Гатавец (Бабруйск). У спісе 12 кандыдатаў, маладзейшых за 35 гадоў, сярод якіх Яўген Лабановіч і Алесь Карніенка.

*"Нас неаднойчы папракалі ў тым, што партыя, байкатуючы кампанію 2000 года, шмат страціла ў арганізацыйным плане,* — кажа Анатоль Лябедзька. - *Сёння ж мы дэманструем усім, што Аб'яднаная грамадзянская партыя мае моцны патэнцыял. На першым этапе выбарчай кампаніі з 55 ініцыятыўных груп не было зарэгістравана толькі 4. Калі б выбары ў Беларусі адбываліся адкрыта, справядліва, без фальсіфікацый і мацнейшага ціску на людзей з боку ўладных структур, то я перакананы, што кандыдаты ад АГП атрымалі б не менш за 30 мандатаў у новым складзе Палаты прадстаўнікоў",* — падкрэсліў Лябедзька.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**

СІТУАЦЫЯ

## Зінаіду Бандарэнка — у дэпутаты!

***На гэты раз адпаведнае рашэнне было прынята на пазачарговым з'ездзе Аб'яднанай грамадзянскай партыі, які адбыўся ў нядзелю.***

Для Зінаіды Бандарэнка гэта ўжо другая спроба зарэгістравацца кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Былая тэлевядучая вырашыла балатавацца па Смаргонскай акрузе Гродзенскай вобласці. Аднак, як вядома, у жніўні акруговая камісія Смаргоні адмовіла Народнай артыстцы ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы, члены якой былі гатовы ісці па кватэрах горада і збіраць подпісы за Бандарэнка. Скарга, якую Зінаіда Аляксандраўна накіравала ў Цэнтрвыбаркам, засталася незадаволенай. Вярхоўны суд таксама прызнаў дзеянні акруговай камісіі Смаргоні правамернымі, калі дакладна — адмовіў у іску Зінаідзе Бандарэнка.

— *У судзе мне паказалі пісьмовыя адказы людзей, якія спачатку ўвайшлі ў склад маёй ініцыятыўнай групы, а пасля адмовіліся збіраць за мяне подпісы,* — распавяла Зінаіда Аляксандраўна. — *Адзін чалавек напісаў амаль тры радочкі: "Я адмаўляюся прымаць удзел у ініцыятыўнай групе Бандарэнка З.А.". Але я лічу, што мая каманда таксама вінаватая ў тым, што адбылося. Не дапрацавалі. Улічваючы тыя ўмовы, у якіх адбываецца вылучэнне ў кандыдаты, трэба было больш уважліва і прафесійна аднесціся да справы.*

У нядзелю Зінаіду Бандарэнка вылучылі па партыйных спісах АГП. Яна будзе спрабаваць зарэгістраваць сваю кандыдатуру па ўсё той жа Смаргонскай акрузе. *"Але складваецца такое ўражанне, што кандыдатаў ад партый могуць не зарэгістраваць,* — заўважае Бандарэнка. — *На ўсялякі выпадак мы будзем збіраць подпісы грамадзян у маю падтрымку".*

Не выключана, што калі кандыдатуру Бандарэнкі ўсё ж такі зарэгіструюць, Народнай артыстцы Беларусі прыйдзецца канкурыраваць з **Таццянай Голубевай** — зараз дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, намеснікам старшыні камісіі па жыллёвай палітыцы, будаўніцтве, гандлі і прыватызацыі і індывідуальным прадпрымальнікам **Аляксандрам Дзергачовым**. Іх ініцыятыўныя групы ўжо зарэгістраваны акруговай камісіяй Смаргоні.

**Таццяна Голубева** 10 гадоў таму кіравала сілікатным заводам Смаргоні, была яго генеральным дырэктарам. **Аляксандр Дзергачоў** — сябра партыі БНФ "Адраджэнне". Таксама спіс кандыдатаў у гэтай акрузе могуць папоўніць вылучэнцы ад працоўных калектываў. Як вядома, вылучэнне кандыдатаў ад партый і працоўных калектываў, згодна з Выбарчым кодэксам, працягваецца да 6 верасня. А рэгістрацыя ўсіх кандыдатаў, якія вырашылі выбірацца ў Палату прадстаўнікоў, адбудзецца з 7 па 16 верасня.

У свой час менавіта ў Гродзенскай вобласці, у суседняй — Ашмянскай акрузе, двойчы перамог на парламенцкіх выбарах старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька**. У 1990 годзе, калі ішлі выбары ў Вярхоўны Савет 12-га склікання, Лябедзька ў першым туры набраў 74% галасоў. У 1995 годзе Лябедзьку прыйшлося канкурыраваць з 9 кандыдатамі, і ён таксама перамог з першага разу. Тады лідэр АГП набраў 61% галасоў і стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання.

І апошняе. У жніўні "Хартыя'97" размясціла на сваім сайце паведамленне аб тым, што ініцыятыўную групу Зінаіды Бандарэнка не зарэгістравалі. І тады на форуме сярод іншых з'явілася і такое меркаванне: "Это как раз та самая бабушка, голос которой звучал в нашем детстве с экранов, мнение которой могут разделить тысячи бабушек и дедушек, не подверженных колхозной пропаганде. Уже только потому, что она не побоялась сказать правду, сказать то, что она думает сама. А теперь сравните ее с той бабушкой, лживо целующей ручки президента... Лукашенко сам просил, чтобы побольше честных женщин прошло в парламент. Я думаю, что Зинаида Бондаренко была бы как раз тем депутатом, голос которого по-дикторски четко мог бы заявить на весь мир о сложении полномочий неудавшегося лидера белорусского народа".

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ЮБІЛЕЙ

## Беларускія палітыкі — аб юбілеі Аляксандра Лукашэнкі

*Учора Аляксандру Лукашэнку споўнілася 50. Што жадаюць яму яго апаненты?*

***Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:***

— Я жадаю яму толькі аднаго — выконваць ім жа створаную Канстытуцыю. І гэтага было б дастаткова для беларускага народа. Акрамя таго, жадаю пазбавіцца ад "балючага імкнення да ўлады" і "дастойна пакінуць вялікую палітыку".

***Мікалай СТАТКЕВІЧ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада):***

— Магу яму толькі пажадаць своечасова закончыць палітычную кар'еру. Многія гістарычныя асобы добра пачыналі, але страчвалі час, калі ім неабходна было пайсці на спакой, і вынікі іх праўлення былі плачэўныя.

***Сяргей КАЛЯКІН, лідэр Партыі камуністаў Беларускай:***

— Я жадаю юбіляру здароўя як фізічнага, так і маральнага. Будзе здароўе — усё астатняе прыкладзецца.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

ПУЛЬС

### Ураджайнасць — 33 цэнтнеры з гектара

Па стане на 30 жніўня ў гаспадарках Беларусі было ўбрана 94 працэнты плошчаў збожжавых і зернебабовых культур (2 млн. 5,35 тыс. гектараў). Намалот дасягнуў 6 млн. 626 тыс. 200 тон збожжа. Сярэдняя ўраджайнасць па краіне склала 33,04 цэнтнера з гектара.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

### Вырашана стварыць дэмакратычны форум беларусаў кантынента

Па выніках двухдзённай сустрэчы беларусаў Еўропы ў Празе вырашана стварыць Дэмакратычны форум беларусаў Еўропы. Аб гэтым у інтэрв'ю БелаПАН паведаміў намеснік старшыні Рады БНР Сяргей Навумчык.

Удзельнікі сустрэчы прынялі зварот да краін Еўрасаюза, адзначыўшы: ЕС павінен заняць актыўную пазіцыю ў дачыненні да Беларусі і заявіць аб тым, што Еўрасаюз будзе вітаць беларускі народ у дэмакратычнай Еўропе.

Акрамя таго, на сустрэчы прынята рэзалюцыя ў падтрымку ахвяр палітычных рэпрэсій у Беларусі.

**Марат ГАРАВЫ.**



МНЕНИЕ

## Российский фактор

**Владимир ГОНЧАРИК,**
**экс-кандидат в президенты Республики Беларусь**

Известно, что политическая и экономическая жизнь в белорусском государстве в основном ориентирована на Россию. Ее особая роль проявляется во время значительных политических кампаний. Москва, удерживая Беларусь на нефтегазовой "цепи", вполне способна "казнить или помиловать" невыгодную для нее власть. По крайней мере такое мнение весьма распространено.

Не секрет и то, что долгое время Александра Лукашенко представляли как " единственного друга России". На самом деле Лукашенко любит не Россию: его единственная любовь в данном контексте — власть и он сам во власти. Прошедшие десять лет показали "Who is who". Москва исправно оплачивала дешевой нефтью, газом, кредитами нынешний режим, союзнические заверения в дружбе, обещания по приватизации лакомых объектов и т.д. До сих пор "создается" совместное предприятие на базе "Белтрансгаза". Уже на 2006 год перенесли введение единой валюты. На союзном государстве, похоже, можно ставить крест. Реальная экономическая интеграция подменена словесной "шелухой". В общем, Москва имела возможность убедиться в ненадежности и непредсказуемости "союзного" партнера. Надеемся, что из такого "опыта" делаются надлежащие выводы.

И внутри страны за два с лишним президентских срока А.Лукашенко добился многого: установил по существу единоличное правление, затормозил развитие гражданского общества, измотал демократическую оппозицию. В стране жестко ограничена независимая пресса, "прикормлены" государственные СМИ. Обществу навязывается своего рода "декрет о единомыслии" — государственная идеология.

Часть российских телеканалов либо закрыты, либо их "скрестили" с белорусскими каналами. Результат "информационной войны" — уменьшение влияния российского фактора на политическую ситуацию в Беларуси. Вспомним президентские выборы 2001 года. Тогда как по команде замолчали российские СМИ! Теперь кое-кто из московских политиков признает: была допущена ошибка. Увы, время упущено...

На внутриполитическом поле Беларуси активно формируются антироссийские настроения, особенно среди молодежи. Такая тенденция обострилась после "газовой войны" в феврале текущего года. По данным лаборатории "Новак", тогда 69% опрошенных отметили ухудшение отношений с Россией, причем треть из них возложили ответственность "преимущественно на российскую сторону".

Благодаря Белорусскому телевидению в сознании граждан формируется образ России как страны олигархов, аварий, взрывов, провалов на уборке урожая. Подобные картинки повседневны на экранах телевизоров. И в противовес — "стабильная процветающая Беларусь".

Все, как в том анекдоте: — Ты смотришь Белорусское ТВ? — Конечно. Иначе как бы я знал, что живу богато и счастливо!

Показушными мероприятиями и показателями прикрываются нетерпимость к инакомыслию, хамское отношение к людям. Бедность, пьянство, чиновничьи поборы — характерные признаки белорусского общества.

Интересная деталь: когда Москва "потакает" официальному Минску, в белорусских СМИ идет "подогрев" братских чувств. Как только появляется требование выполнять договоренности, следует "вброс" в эфир антироссийских высказываний. При этом отождествляется личность Лукашенко и страна: мол, критикуя президента, вы клевещете на братский народ. Хотя приемчик не новый, но лозунг "Вождь (в нашем случае "бацька") и нация едины" на часть населения все еще действует.

Официальные лица Кремля лишь изредка пожурят братского президента за его опрометчивые высказывания и поступки. Затем наступает период затишья. Вспомним историческое изречение о том, что следует отделить мух от котлет. К слову, Александр Григорьевич также не остался в долгу — его сравнения были, пожалуй, порезче.

Суть в том, что Россия имеет в Беларуси экономические и, что весомее, политические интересы. И до сих пор многое белорусскому руководству прощалось. Как говорится: плохой, да свой... Оказалось, во-первых, не такой уже и свой. А вдобавок, что важнее, — от подобных шараханий страдает экономика Беларуси и благосостояние людей.

Отметим также, что на этом фоне прорезается интерес Запада к "белорусскому вопросу". Он не сходит с повестки дня ПА ОБСЕ, Совета Европы, Европарламента. В Конгрессе США муссируется "Акт о поддержке демократии в Беларуси". Не исключено, что количество осуждающих резолюций может перерасти в качество — конкретные действия против режима "последнего диктатора Европы". И вряд ли Россия сможет противостоять такому сценарию событий.

Я никогда не был сторонником каких-либо экономических санкций против моей страны. А вот А.Лукашенко стоило бы, пока не поздно, задуматься о последствиях проводимой им политики и своей ответственности. В стране ("осажденной крепости") граждане заслуживают лучшей жизни.

Правда и то, что демократическая оппозиция не имеет единого представления о стратегическом вопросе — о движении страны в будущее. Одни смотрят на Запад, другие надеются на Восток, то есть на Россию, а третьи настаивают на "особом пути" Беларуси. Разумеется, важны взаимовыгодные партнерские отношения и с Россией, и с Западом. Не будем забывать, что Беларусь — транзитная страна.

Ну не примут, при всем нашем желании, Беларусь в обозримом будущем в Евросоюз. Но разве данное обстоятельство мешает иметь с ним нормальные деловые отношения? Дело в другом — в проводимой Беларусью политике самоизоляции. Точно так же безосновательны опасения ряда политиков об угрозе поглощения Беларуси Россией. Да, у российских политиков, с которыми и мне приходилось общаться, проявляются порой великодержавные амбиции. Но дело-то опять-таки в собственной белорусской политике. Как говориться, назвался груздем — полезай в кузов...

Россия — основной торговый партнер нашей страны. На ее долю приходится 58% общего объема внешней торговли. С этим нельзя не считаться. Терять российский рынок сбыта продукции не просто невыгодно, а стратегически неверно. Проблема в том, что эффективность торговли должна быть выше. Наши товары могут потерять конкурентоспособность, поскольку модернизация предприятий на основе прогрессивных технологий осуществляется крайне медленно.

Углублять сотрудничество с Беларусью выгодно, полагаю, и России и Западу. "Стена", которая в последнее время воздвигается между Россией и Беларусью, несомненно, ослабит движение российских сырьевых и товарных потоков и новых западных технологий. Уже эта одна из весомых экономических причин, не говоря о политических, по которым и Западу и России следовало бы скоординировать усилия в плане решения "белорусского вопроса". Я не призываю российское руководство вмешиваться во внутренние дела Беларуси. Беспокоит, что российская дипломатия до недавних пор поддерживала и недемократические политические режимы в тех или иных государствах СНГ.

Предстоящие парламентские выборы в Беларуси дают Москве шанс определить и конкретизировать на долгосрочную перспективу собственную политику в отношении ближайшего партнера. Невозможно только одно: ни один вменяемый политик не променяет независимость страны ... на губернаторский пост.

Во время октябрьских выборов, несмотря на жесточайшее сопротивление властей, у демократической оппозиции (явной и скрытой) также появится шанс сделать несколько ставок. Ее участники, несколько усмирив личные амбиции, объединились в коалиции, в программных документах которых не содержится ни одного положения, сколько-нибудь оскорбительного или неприемлемого для России. Любая поддержка их сегодня принесет политические дивиденды завтра.

Демократическая общественность ожидает от Москвы немногого. Прежде всего помощи в прорыве информационной блокады. Суть не столько в критике нынешнего белорусского режима на российских телеканалах. Важно помочь развеять миф о единственном, незаменимом политике в Беларуси, показать, что в стране есть подготовленные люди, пытающиеся демократическим путем прийти к власти. Они способны провести необходимые перемены в стране: модернизировать экономику, поднять уровень жизни, обеспечить подлинное народовластие.

Нужна правда о тупиковости белорусской модели социально-экономического развития, об углубившейся самоизоляции Беларуси;

о резком ограничении прав и свобод граждан, в т.ч. в трудовой сфере через массовое внедрение срочных трудовых контрактов;

о запрете политических партий, независимых профсоюзов;

о засекреченных фондах, в которых, как в "черных дырах", исчезают огромные деньги, в том числе от продажи оружия и т.п.;

наконец, правда об исчезнувших политиках.

Представителям демократических структур нашей страны есть что сказать белорусским и российским телезрителям.

Режим понимает опасность такой информации. Подтверждение тому — действия в отношении Маринича, Фролова и других общественных и политических деятелей, а также независимых газет: "Народная воля", "БДГ" и других, ряда российских СМИ.

Убежден, иметь союзником не авторитарное, а свободное демократическое государство гораздо выгоднее и престижнее во всех отношениях. Вместе с международным сообществом Россия может содействовать проведению в Беларуси хотя бы относительно свободных и прозрачных выборов. Ведь даже российские, далекие от совершенства избирательные стандарты нам пока недостижимы. Беларуси необходим как воздух парламент, который смог бы выполнять свои функции так, как выполняют их парламенты во всем цивилизованном мире, в том числе контролировать работу исполнительной власти, особенно расходование государственных средств. В перспективе — определить новый стратегический курс страны в интересах людей труда. Важно дать понять официальному Минску, что, в отличие от предыдущих выборных кампаний, Россия вместе с другими цивилизованными странами не признает итоги сфальсифицированных парламентских выборов. Такая позиция — показатель зрелости демократии и в самой России.

Следующим шагом должны стать выборы президента Беларуси в 2006 году. Кремль в силу своего политического и экономического влияния способен помочь поставить крест и на антиконституционных планах А.Лукашенко насчет третьего срока.

Российско-белорусские отношения необходимо очистить от накопившегося политического и иного "мусора", поставить на реальную экономическую и политическую основу. Это задача будущих демократических парламента и президента.

Конечно, не следует абсолютизировать, как и преуменьшать, значение российского фактора, тем более что он пока не задействован в полную мощь. Основное — собственные силы, повседневная работа с людьми. Здесь нет иллюзий. Но, как говорится, за помощь спасибо.

Беларусь должна стать, как и записано в ее Конституции, демократическим, социальным, правовым государством. Это наша общая цель и стратегическая задача.

ПУЛЬС

## Брэстчына помніць Тадэвуша Касцюшку

У другой палове верасня ў Брэсцкай вобласці адбудзецца адкрыццё двух мемарыяльных аб'ектаў, звязаных з жыццём і дзейнасцю вядомага палітычнага і ваеннага дзеяча Рэчы Паспалітай, кіраўніка нацыянальна-вызвольнага паўстання 1794 года супраць рускага царызму, нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы і ЗША, ганаровага грамадзяніна Францыі Андрэя Тадэвуша Банавентуры Касцюшкі (хрышчаны 12.02.1746 — 15.10.1817).

Як паведаміў БелаПАН вядучы спецыяліст упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны Леанід Несцярчук, размова ідзе пра адноўлены дом на хутары Мерачоўшчына ў наваколлі мястэчка Косава Івацэвіцкага раёна, дзе нарадзіўся Т.Касцюшка, і капліцу ў памяць загінуўшых удзельнікаў паўстання 1794 года на Крупчынскім полі ў Жабінкаўскім раёне. "Адкрыццё ж музейнай экспазіцыі ў сядзібе героя ў Мерачоўшчыне запланавана на наступны год", — заўважыў спецыяліст. Ён выказаў падзяку пасольству ЗША ў Беларусі за фінансаванне праекта па аднаўленні дома Т.Касцюшкі.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Тры новых інвестпраекты

Яны ўхвалены да рэалізацыі на тэрыторыі свабоднай эканамічнай зоны "Мінск" на пасяджэнні конкурснай камісіі яе адміністрацыі.

Першы з іх прадугледжвае наладжванне вытворчасці будаўнічых профілей і крапёжных вырабаў, якія ў Беларусі пакуль не выпускаюцца. Рэалізоўваць праект будзе нядаўна зарэгістраванае сумеснае беларуска-расійскае прадпрыемства "Камплектпрофіль".

Другі прадугледжвае стварэнне сумеснага нямецка-беларускага прадпрыемства "Нера Электронікс" па распрацоўцы і вытворчасці электронікі прамысловага і бытавога прызначэння. Прадпрыемства плануе займацца ўкараненнем у вытворчасць распрацовак беларускіх спецыялістаў у галіне аўтаматыкі і электронікі.

Плануемы сумарны аб'ём інвестыцый у іх — каля 2 млн. долараў ЗША.

Усяго з пачатку года конкурснай камісіяй адміністрацыі СЭЗ "Мінск" ухвалена 7 інвестыцыйных праектаў; рэалізацыя чатырох з іх ужо пачалася.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## З Брэста ў Калінінград

У Калінінградзе знаходзіцца дэлегацыя дзелавых колаў Брэстчыны.

Апошнім часам дзелавыя дачыненні паміж двума рэгіёнамі аптымізуюцца. За першае паўгоддзе тавараабарот павялічыўся ў параўнанні з адпаведным мінулагоднім перыядам удвая і склаў 4,3 мільёна долараў. Пры гэтым экспарт тавараў вытворцаў Брэсцкай вобласці складае 3,7 мільёна долараў ЗША. Калінінградцы купляюць у беларускім рэгіёне газавыя пліты, дываны, мэблю, малочныя прадукты, будаўнічыя матэрыялы: друз, жвір, вырабы з бетону. У Брэст яны пастаўляюць у асноўным рыбу і рыбапрадукты.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**

## Праводзяць аперацыю «Арсенал»

З 26 жніўня па 5 верасня органы ўнутраных спраў Віцебскай вобласці праводзяць комплекс спецыяльных мерапрыемстваў "Арсенал". Асаблівая ўвага падчас гэтай аперацыі надаецца фактам незаконнага захоўвання агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў.

Паводле інфармацыі прэс-цэнтра Упраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама, сёлета на тэрыторыі вобласці ўчынена 30 злачынстваў з выкарыстаннем агнястрэльнай зброі. Асабліва востра гэтая праблема стаіць у Гарадокскім, Аршанскім і Полацкім раёнах.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

## Беларусь— Славакія

За апошні год адносіны паміж Беларуссю і Славакіяй значна актывізаваліся. Амаль штомесяц арганізуюцца сустрэчы прадстаўнікоў дзелавых колаў дзвюх краін, якія "на сваім узроўні абмяркоўваюць і знаходзяць узаемавыгадныя шляхі для развіцця гандлю". Аб гэтым заявіў часовы павераны ў справах Славацкай Рэспублікі ў Беларусі Ёзэф Мачышак на сваёй прэс-канферэнцыі.

У сярэдзіне жніўня, зазначыў ён, Славакію наведала дэлегацыя дзелавых колаў Беларусі. Гэты візіт стаў вельмі плённым. Ёсць дамоўленасці аб рэалізацыі сумесных праектаў. У мэтах развіцця кантактаў паміж славацкімі і беларускімі рэгіёнамі Мінскае аддзяленне БелГПП правяло перамовы аб супрацоўніцтве з трыма рэгіянальнымі палатамі Славакіі.

Паводле даных славацкай статыстыкі, за 6 месяцаў бягучага года тавараабарот паміж дзвюма краінамі склаў 40,1 млн. долараў ЗША — амаль столькі ж, колькі за ўвесь мінулы год (43,9 млн.).

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

ДВА ВЗГЛЯДА

*О возможном референдуме и третьем (или четвертом?) президентском сроке А.Лукашенко не рассуждает только ленивый. Вот и два депутата Палаты представителей Национального собрания ломают копья, обсуждая вопросы этой проблематики. Их взгляды, конечно, расходятся... Впрочем, прочитайте, и Вам, уважаемые читатели, станет ясно, кто на каких позициях стоит.*

***Владимир ДЕЛЕНДИК:***

# «Референдум нужен парламенту и народу»



Судьба третьего референдума и возможное совмещение всенародного опроса по третьему президентскому сроку с парламентскими выборами определится не далее как 10 сентября. Вначале президент Александр Лукашенко на селекторном совещании заявил о готовящейся "политической кампании" параллельно с парламентскими выборами; следом председатель Центральной комиссии по проведению выборов и республиканских референдумов Лидия Ермошина объявила, что если референдум и состоится, то президентский указ должен появиться не позже 10 сентября.

До сих пор, когда заходила речь о возможном референдуме, разговор шел о третьем президентском сроке Александра Лукашенко, то есть о снятии конституционных ограничений на занятие одним лицом поста президента не более двух сроков. В депутатской среде поговаривают о необходимости вынести на референдум вопрос по расширению полномочий Национального собрания. О такой возможности в свое время говорил и Александр Лукашенко.

Заместитель председателя комиссии по образованию, науке и научно-техническому прогрессу Владимир Делендик всерьез полагает, что именно расширение полномочий парламента должно стать центральной темой всенародного обсуждения.

— ***Референдум нужен уже не только президенту, но и депутатам Национального собрания.*** В предвыборной программе на президентских выборах 2001 года Александр Лукашенко ставил вопрос о расширении полномочий парламента. На референдуме 1996 года президент забрал часть полномочий у парламента по той ***причине, что в этот период разгорелось серьезное противостояние с Верховным Советом. Видимо, правильно сделал: если в стране происходит противостояние между президентом и парламентом, в экономике никогда не будет стабильности. Сейчас назрела необходимость просить у народа расширения полномочий парламента.***

Без народа президент не может расширить полномочия парламента. Однако в Беларуси не будет полноценного парламента, если на референдуме не будут расширены полномочия Национального собрания.

И парламент, и президент избираются народом. Президент должен разделить ответственность за развитие страны с парламентом. Парламент также должен отвечать и за развитие экономики, и за политическую ситуацию в стране. Что касается продления президентских полномочий Александра Лукашенко — ответ могут дать только избиратели, а не парламент или президент. Я убежден: какие бы силы сегодня ни пришли к власти, они обязательно проводили бы референдум по изменению Конституции. Говорить о поддержке референдума со стороны Кремля некорректно и не столь важно — России нужна стабильность в Республике Беларусь.

**— И тем не менее считаете ли Вы необходимым продление президентских полномочий на третий срок?**

— ***Я не вижу ни у одного оппозиционного политика программы по выведению экономики страны на более высокий уровень.*** Мудрейшие слова сказал президент на селекторном совещании по проблемам уборки: дайте деньги — через пять лет у нас будет комбайн не хуже американских, польских "Бизонов", и ничего закупать не надо. У нас же закупают сельскохозяйственную технику, чтобы "откатать" деньги на карман и показать президенту: урожай мы собрали за 15 дней. А с какими потерями, с какими финансовыми затратами — это никого не волнует.

Я опасаюсь, чтобы Республику Беларусь не охватил хаос, прихватизация, чтобы страна не превратилась в буферную зону. ***Считаю, что ради стабилизации в стране президент Лукашенко на ближайшие пять лет нам нужен.*** Сегодня ни один оппозиционный лидер, придя во власть, ничего не сумеет сделать ни с коррупцией, ни с экономическими проблемами. Как бы там ни говорили, у нас растет зарплата: около 500 долларов получает председатель райисполкома, около того — заместитель председателя, министры получают более 500 долларов. Если человек изначально думает о том, как бы поживиться, дай ему хоть пять тысяч долларов, он все равно будет думать, как уворовать еще пять тысяч долларов. **И в целом наблюдается рост экономики.**

Когда парламент рассматривал закон о борьбе с коррупцией, я прямо сказал заместителю генерального прокурора: по предложенному закону надо будет проводить амнистию два раза в год. И прокуратуре придется отвечать за принятие такого закона. Следует упредить издание коррупционных инструкций, приказов. Если же этот закон примет нынешний состав парламента или будущий, то под его действие подпадут все, в том числе и депутаты Палаты представителей.

**— Если речь идет о референдуме по расширению полномочий парламента, то о каких конкретно полномочиях может идти речь?**

— Как депутат я хотел бы, чтобы парламент в первую очередь отвечал за бюджет, чтобы не принимал к сведению госбюджет, как сейчас, а контролировал его выполнение. Хотелось бы, чтобы парламент контролировал и правительство, а не заслушивал формальные отчеты Совета министров. Это основные полномочия, которые следовало бы закрепить законодательно. Нужно, чтобы парламент вместе с президентом отвечал за бюджет, и, естественно, за работу правительства.

**— Ходят разговоры, что на возможный референдум планируется вынести вопрос о том, чтобы президента выбирал парламент?**

— Если народ доверит президенту продлевать свои полномочия, будет не важно, кто будет избирать главу государства, — парламент или народ напрямую. Референдум должен откорректировать Конституцию. В обязательном порядке должен быть вынесен на всеобщее голосование вопрос о расширении полномочий парламента. Парламент никогда не сможет подменять президента, но дополнительные полномочия только облегчат работу другим ветвям власти.

**— Насколько реален сценарий совмещения референдума с парламентскими выборами?**

— В целях экономии средств можно было бы совместить референдум с выборами. Одно пугает: народ может запутаться. Избиратели могут не проголосовать за депутатов, а сосредоточиться на референдуме. Референдум все-таки даже более ответственная политическая кампания, чем парламентские выборы.

Что касается участия представителей политических партий в выборах, то лично я сам заинтересован в участии оппозиции в выборах — чтобы победить. А не пройти в Палату с помощью административного ресурса. Кандидат, ставший депутатом при помощи вертикали, это нерабочий депутат.

**— Правда ли, что исполнительная власть составила списки желательных депутатов?**

— Если бы я видел эти списки, я бы подтвердил. Но никаких списков не видел и видеть не хочу.

**— В послании парламенту президент сказал, что не пустит в следующую Палату представителей предпринимателей, бизнесменов. А ведь до недавнего времени Вы возглавляли УЧП "Дарида", которое лидирует на белорусском рынке безалкогольных напитков. Ваше мнение по этому поводу?**

— Не все сегодня зависит от президента: есть народ, я пойду тем же путем, которым и шел. Будут списки, не будет их — я буду идти от народа.

Один разговор: списки, списки, списки? Я у всех спрашиваю: а есть ли я в списках, и не могу нигде узнать. Спрашивал даже у спикера Вадима Попова: я в списках есть или нет? Он мне не ответил, есть ли я в списках.

У тогдашнего председателя Минского райисполкома нынешнего министра Русака тоже узнавал: существуют ли списки? Никаких списков нет, ответил он. Правда, уже бывший председатель Минского райисполкома писал характеристику на депутата Делендика, которую представил в Минский облисполком. Наличие списков я не могу ни подтвердить, ни опровергнуть.

***Валерий ФРОЛОВ:***

# «Я категорически против продления полномочий Лукашенко»

Прогнозами относительно референдума по третьему президентскому сроку и возможным совмещением всенародного опроса с парламентскими выборами делится лидер депутатской группы "Республика" Валерий Фролов.

**— Валерий Дмитриевич, "Хартия-97" со ссылкой на источник в Администрации президента сообщила, что в ближайшее время будет объявлено о проведении референдума. Насколько это вероятно и насколько реальным Вам видится сценарий совмещения референдума с парламентскими выборами?**

— На процентов 90, по моему убеждению, так и будет: Александр Григорьевич объявит о референдуме и совместит его с парламентскими выборами. Тем более я знаю это совершенно точно, в Бресте на сессии парламентского собрания союза Беларуси и России Александр Лукашенко заявил Борису Грызлову (спикер государственной Думы России. — **Ред.**), что кое в чьих советах он не нуждается. Поэтому мой прогноз: на 90% референдум по третьему президентскому сроку будет объявлен в ближайшее время и совмещен с выборами в Палату представителей.

**— До сих пор, когда речь заходила о референдуме, говорили только о снятии конституционных ограничений на занятие одним лицом поста президента не более двух сроков. Но практика свидетельствует, что обычно референдум не ограничивается одним вопросом...**

— Да, я думаю, могут быть вынесены три-четыре вопроса: о смертной казни, о расширении полномочий парламента, еще какой-нибудь. Но главным станет, естественно, продление президентских полномочий на третий срок.

**— Насколько целесообразно выносить на всенародный опрос проблему расширения полномочий парламента?**

— Полномочия Национального собрания расширять, естественно, необходимо. Но, мне кажется, даже если народ выскажется за расширение полномочий, то за референдумом последуют затяжные обсуждения — что, как и когда расширять. Может стоять вопрос о том, чтобы парламент назначал министров и так далее, то есть речь идет о второстепенных функциях Национального собрания. Я не уверен, что в конце концов даже положительное мнение народа власти не заболтают. По моему глубокому убеждению, без кардинального сужения полномочий президента говорить о возвращении нашему парламенту забранных ранее полномочий не приходится.

**— Позвольте несколько наивный вопрос. Как Вы считаете, нужно ли продлевать президентские полномочия Александра Лукашенко на третий срок?**

— Я категорически против. Александру Лукашенко вполне хватило двух сроков, чтобы полностью раскрыть себя. Глава государства создал в стране атмосферу страха, создал мощную репрессивную машину. Короче говоря, в Беларуси создана стабильность, но это не та стабильность, которая нужна народу. Должна быть стабильность развития, которой, к сожалению, мы лишены. Беларусь имеет мощнейший интеллектуальный, экономический потенциал, который может быть реализован только при ином главе государства.

Тем более что, как свидетельствует мировая практика, пребывание одного лица на президентском посту свыше 7—10 лет нецелесообразно. Обычно за такой срок человек, даже если он глава государства, исчерпывает свой потенциал, и тогда власть как бы костенеет. После пребывания у власти 7—10 лет президент не в состоянии принимать нужные решения, которые идут на пользу стране и народу.

**Юрась ДУБИНА.**

## Асцярожна, вірусы!

*У апошнія гады ў Беларусі адзначаецца актывізацыя эпідэмічнага працэсу па энтэравірусных інфекцыях (ЭВІ).*

Медыкі адзначаюць, што прычынай пад'ёму захворвання на энтэравірусную інфекцыю стала актыўная цыркуляцыя энтэравірусаў у вадзе адкрытых вадаёмаў і ў навакольным асяроддзі. Менавіта водны шлях прызнаны вызначальным пры распаўсюджванні інфекцыі.

Гігіеністы падкрэсліваюць, што нездавальняючы санітарна-тэхнічны стан водаправодных камунікацый павышае рызыку ўзнікнення ў школах успышачнага захворвання на ЭВІ, вірусны гепатыт А, а таксама іншыя вострыя кішачныя захворванні. Акрамя таго, метады падрыхтоўкі вады, якія прымяняюцца зараз, не гарантуюць ачыстку водаправоднай вады ад забруджвання вірусамі.

У мэтах прадухілення ўспышачнага захворвання галоўным дзяржаўным санітарным урачам абласцей і горада Мінска да пачатку вучэбнага года неабходна забяспечыць правядзенне лабараторнага кантролю за якасцю пітной вады па бактэрыялагічных і хімічных паказчыках у школах. У выпадку праблем з забеспячэннем якаснай неабходна выкарыстоўваць кіпячоную бутыліраваную або водаправодную ваду пасля дадатковай ачысткі пры дапамозе фільтраў.

**Вольга АСІПЕНКА.**

## Танцы на подыуме

*Зямельны суд у Браўншвайгу (Германія) вынес прысуд аб пазбаўленні волі тэрмінам да двух гадоў 23-гадовай ураджэнцы Арменіі і яе 47-гадоваму нямецкаму саўдзельніку за гандаль людзьмі, хаўрусніцтва прастытуцыі і падробку дакументаў. Крыху раней бацька жанчыны, які вербаваў ахвяр у Мінску і арганізоўваў іх адпраўку ў Германію, у выніку паспяховага супрацоўніцтва паліцыі Германіі і міліцыі Беларусі быў затрыманы ў беларускай сталіцы.*

Як зазначаецца ў паведамленні пасольства ФРГ у Беларусі, перш чым пераехаць у Германію, злачынца некалькі гадоў жыла ў Мінску. У Германіі яна і яе сябра адкрылі напрыканцы 2003 года начны бар, гваздом праграмы якога быў нумар "Tabledance" ("танцы на подыуме"), а таксама прастытуцыя ў заднім пакоі клуба. Жанчын для гэтых мэт пастаўляў бацька злачынцы, "зманнымі абяцаннямі схіляючы да таго, каб яны нелегальна і па фальшывых дакументах на зневажальных умовах працавалі ў клубе".

**Лавінія АРЭШКА.**

## Руслан Алехна едзе ў Польшчу

*Беларускі выканаўца Руслан Алехна возьме ўдзел у конкурсе маладых выканаўцаў, які адбудзецца ў рамках XIII Міжнароднага фестывалю песні "Мальва-2004". Форум пройдзе 4-5 верасня ў Седльцах (Польшча).*

У якасці госці на фестываль запрошана папулярная беларуская спявачка Вольга Плотнікава. Спецыяльна для гэтага форуму выканаўца пераклала на польскую мову свой хіт "Усё не бяда". Таксама ў фестывалі возьмуць удзел выканаўца Збыслаў Белы і кампазітар і прадзюсер Генадзь Маркевіч, які запрошаны на форум як член журы конкурсу.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

ЧУЛІ?

## РЭПАМ звярнуўся ў МАП

Беларускі прафсаюз работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці, аўтамабілебудавання, металаапрацоўкі, іншых галін народнай гаспадаркі (РЭПАМ) накіраваў заяву на адрас выканаўчага дырэктара Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) Кары Тапіолы з выкладаннем "найгрубейшых парушэнняў правоў прафсаюзаў у Беларусі".

У заяве, у прыватнасці, паведамляецца, што ў лютым 2004 года на пазачарговым з'ездзе Беларускага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) былі прыняты змяненні ў статут і зменена назва арганізацыі. Дэлегаты з'езда таксама прынялі рашэнне аб выхадзе са складу Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (ФПБ). Міністэрства юстыцыі зарэгістравала гэтыя змяненні і выдала прафсаюзу РЭПАМ пасведчанне аб рэгістрацыі. Аднак у канцы ліпеня "пад ціскам Адміністрацыі прэзідэнта і ФПБ было прынята незаконнае, беспадстаўнае рашэнне аб адмене рэгістрацыі змяненняў і дапаўненняў у статут прафсаюза РЭПАМ, якое фактычна азначала яго ліквідацыю".

Акрамя таго, гаворыцца ў заяве, на прадпрыемствах, у прыватнасці "БАТЭ" (Барысаў) і Мінскім аўтазаводзе, "адміністрацыя прымяняе да работнікаў — членаў прафсаюза РЭПАМ розныя рэпрэсіі: ад пагроз, псіхалагічнага і адміністрацыйнага ціску аж да звальнення за прыналежнасць да прафсаюза".

РЭПАМ звярнуўся з заявай аб падтрымцы прафсаюза да "ўсіх прагрэсіўных сіл" Беларусі і міжнароднай грамадскасці, а таксама да старшыні Федэрацыі незалежных прафсаюзаў Расіі Міхаіла Шмакава.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

КРИМИНАЛ

# Взятка для отца-председателя

*В апреле 2003 года в Управление по борьбе с коррупцией и организованной преступностью МВД Беларуси обратился М.Касач, директор ООО "ПромСтройФин". По его заявлению было возбуждено уголовное дело. Занималась им столичная прокуратура, точнее — следственный отдел по важнейшим делам.*

Еще в мае 2000 года М.Касач получил от своего знакомого Юрия Бортникова, директора УП "Люстар", предложение приобрести трехкомнатную квартиру в строящемся жилом доме по ул.Гурского в Минске. Строил дом созданный при Республиканском совете профсоюзов "Садружнасць" коллектив индивидуальных застройщиков "Долевик". Правда, Касач никакого отношения ни к совету, ни к "Долевику" не имел. Впрочем, Бортников тоже. Иное дело — его отец, Бортников-старший, Олег Александрович. Он как раз и возглавлял Республиканский совет профсоюза "Садружнасць".

Трудно сказать, что сыграло решающую роль — должность председателя Совета или старые связи бывшего работника ЦК Компартии Беларуси, а может, и то и другое, но строительство дома обходилось дешевле, чем строительство аналогичных домов в городе. Перспектива получить квартиру по стоимости, существенно ниже рыночной, была весьма заманчивой. Но тут же возникли трудности. Гражданин, претендующий на жилье в этом доме, должен быть членом профсоюза, состоять на учете нуждающихся в улучшении жилищных условий по месту жительства и, самое главное, решение о предоставлении квартиры конкретному застройщику принимает совет.

Бортников-сын намекнул: все эти трудности Бортников-отец готов облегчить. Конечно, не безвозмездно, а за 3000 зеленых. Именно такую "материальную помощь" бывшему сотруднику ЦК КПБ, а ныне профсоюзному лидеру Юрий объяснил количеством комнат. Мол, три комнаты — 3000 долларов, две — было бы 2000, одна — 1000. Столь простая арифметика тем не менее удовлетворила М.Касача, когда тот прикинул: новое жилье даже при выплате мзды чиновнику все равно обойдется на порядок ниже рыночных цен.

Из предъявленного прокуратурой Бортниковым (отцу и сыну) обвинения следует, что Бортников-отец выдал на Руки М.Касачу фальсифицированное решение совета профсоюза о предоставлении строящейся квартиры "ПромСтройФину". Затем распорядился выписать счет-фактуру на имя М.Касача на внесение первых взносов. А как же справка из исполкома о том, что тот нуждается в улучшении жилищных условий? На отсутствие справки Бортников-отец закрыл глаза.

Когда дело дошло до передачи денег, М.Касач потребовал расписку. Собственноручно написал ее Бортников-сын: 3000 долларов США получены им для последующей передачи Бортникову-отцу за положительное решение вопроса о предоставлении квартиры в строящемся КИЗ "Долевик" (оригинал расписки находится в материалах уголовного дела).

Согласно показаниям М.Касача и его брата, Бортников-сын в их присутствии передал деньги отцу. Передача денег происходила в квартире брата М.Касача.

В ходе следствия Бортников-отец неоднократно намекал на то, каким авторитетным лицом он является, вспоминал дни работы в аппарате ЦК Компартии Беларуси, хвалился прочными и по сей день не угасающими связями с представителями бывшей партийной элиты... На следователей, однако, эти намеки не подействовали, и дело передали в суд Фрунзенского района Минска.

В июле нынешнего года судья Е.Семак огласила приговор, который обескуражил не только потерпевших, но и работника прокуратуры, поддерживавшей обвинение. Бортников-сын на основании материалов дела, показаний потерпевшего и его брата, других свидетелей по делу признан виновным в совершении хищения имущества в крупном размере путем мошенничества, а также в подстрекательстве к даче взятки в крупном размере и приговорен к лишению свободы общим сроком на три года шесть месяцев. Он был взят под стражу в зале суда. А Бортникова-отца суд... оправдал "за недоказанностью участия в совершении преступления".

Что могло повлиять на вынесение именно такого решения?

А вот что: показания граждан В.Варшавской, представившейся сожительницей Бортникова-отца, и ее знакомой М.Возной. Первая заявила, что в тот день, который прокуратура инкриминировала ее возлюбленному как дату совершения преступления, он находился с ней. А М.Возная утверждала, что именно 17 июня 2000 года и именно в 15.00 она видела Бортникова-отца с его подругой Е.Варшавской в совершенно противоположном от передачи денег месте. Обе свидетельницы в показаниях путались, но настаивали на своем, на предупреждение прокурора об уголовной ответственности за дачу ложных показаний не реагировали. Кстати, и объявились-то они только тогда, когда угроза Бортниковым сесть за решетку стала реальной.

Естественно, прокуратура Фрунзенского района незамедлительно вынесла протест. По ее мнению, отец и сын Бортниковы одинаково причастны к совершению преступления и оба должны понести заслуженное наказание.

Алиби, созданное Бортникову-отцу в ходе судебных заседаний, было настолько очевидно фиктивным, что в дело решили вмешаться сотрудники Управления по борьбе с коррупцией и организованной преступностью МВД. Они встретились с М.Возной, и та призналась, что отец и сын Бортниковы месте с Е.Варшавской приехали к ней незадолго до суда и объяснили, что им угрожает опасность ареста. А для того, чтобы избежать его, нужны в суде показания, идущие вразрез с установленными в ходе следствия материалами...

Свои признания М.Возная подкрепила сделанным ею собственноручным заявлением, повторила свое повествование на видеозаписи. Все материалы, включая видеозапись, также приобщены прокуратурой к материалам кассационного протеста.

Вроде бы все в этой истории стало проясняться. Но остается без ответа вопрос: неужто и в самом деле на решение суда повлияли не факты, достоверно установленные прокуратурой, а "нашептывания старой номенклатурной знати", на "всесилие" которой и намекал Бортников-отец?

**Григорий ЛОТВИЦКИЙ.**

## «Праколы» нашага Гарадка

*Нядоўга давялося распавядаць на пасяджэнні Віцебскага аблвыканкама пра поспехі старшыні Гарадоцкага райвыканкама Анатолю Марозу. Даволі хутка яго перапынілі і пачалі задаваць непрыемныя пытанні. Кіраўніка мясцовай "вертыкалі" крытыкавалі за тое, што праграма па ўкараненні дзяржаўных сацыяльных стандартаў абслугоўвання насельніцтва выконваецца марудна і нездавальняюча.*

Калі ў самім райцэнтры даволі актыўна вядзецца добраўпарадкаванне, то ў вясковай глыбінцы жыццё нібыта спынілася на ўзроўні 60-х гадоў мінулага стагоддзя. У многіх населеных пунктах няма тэлефоннай сувязі, адсутнічаюць нармальныя праезныя дарогі, а ўначы пануе непраглядная цемра, пасажырскі аўтобус і аўталаўка прыходзяць толькі двойчы на тыдзень. Ні ў адным іншым раёне вобласці няма такога, каб аўтобус не даходзіў да цэнтральных сядзіб гаспадарак, а на Гарадоччыне гэтая з'ява звычайная. 38 населеных пунктаў раёна зусім не маюць транспартных зносін з гарадамі.

На фоне даволі прыстойных магазінаў у Гарадку сумна выглядаюць нішчымныя паліцы вясковых крам з іх прымітыўным асартыментам, у якім няма часам самых неабходных тавараў і прадуктаў.

Абыякава ставіцца мясцовае чынавенства і да надзённых гаспадарчых патрэб сялян. Да 25 жніўня ў раёне было ўбрана толькі 7% асабістых агародаў у вёсках, у той час калі, да прыкладу, у Бешанковіцкім раёне — амаль палова.

Непрыгляднае відовішча ўяўляюць сабой апусцелыя жывёлагадоўчыя фермы, якіх на Гарадоччыне становіцца ўсё больш. Занядбаныя будынкі да самага даху пазарасталі хмызняком і пустазеллем.

Ды і ў раённай "сталіцы" не ўсё так прыстойна, як можа здацца на першы погляд. У міжацяпляльны перыяд у Гарадку звычайна няма гарачай вады, а калі і ёсць, то не часцей як двойчы на дзень. У бальніцы не хапае ўрачоў, не лепшым чынам арганізавана бытавое абслугоўванне.

Вынікам разгляду становішча з сацыяльнымі стандартамі на Гарадоччыне ў аблвыканкаме стала рашэнне аб тым, каб не здымаць гэты раён з кантролю абласных інстанцый.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

